Цемушаў, С. М. Саветы ад лютага да кастрычніка 1917 г. / С. М. Цемушаў // Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб. Вып. 4 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БДУ, 2009. — С. 335–340.

***С. М. ЦЕМУШАЎ***

# САВЕТЫ АД ЛЮТАГА ДА КАСТРЫЧНІКА 1917 г.

Пытанні аб ролі Саветаў у дзвюх расійскіх рэвалюцыях лютага і кастрычніка, аб стаўленні да іх бальшавікоў і фарміраванні «савецкай мадэлі дэмакратыі» застаюцца найбольш складанымі і нераспрацаванымі. Нягледзячы на тое, што 1917 г. прысвечана вялікая колькасць даследаванняў, названыя праблемы трактаваліся спрошчана і тэндэнцыйна ў поўнай адпаведнасці з афіцыйнай ідэалагічнай дактрынай. Бясспрэчным з’яўляўся тэзіс аб паслядоўным правядзенні бальшавікамі лозунга «Уся ўлада Саветам!», а пасля прыходу да ўлады аб прытрымліванні ідэі савецкай дэмакратыі. Пры гэтым Саветы разглядаліся як органы прамой народнай улады, з дапамогай якіх было магчыма перайсці да вышэйшай формы дэмакратыі шляхам уцягнення праз савецкія органы большай часткі насельніцтва ў кіраванне дзяржавай [7, с. 320].

Саветы з’яўляліся унікальнымі ўтварэннямі, яны не былі вынаходствам якой-небудзь партыі — бальшавікоў або меншавікоў. Саветы ўзнікалі стыхійна, як увасабленне глыбіннай традыцыі сялянскай абшчыны, «міру», якая з’яўляецца неад’емнай рысай усходнеславянскага менталітэту. Няма нічога дзіўнага ў тым, што Саветы ўзніклі перш за ўсё ў Расіі — пераважна сялянскай краіне, у якой і прамысловыя рабочыя яшчэ не забыліся аб сваіх вясковых каранях. У. І. Ленін наконт пытання аб паходжанні Саветаў пісаў: «…Самая глыбокая народная творчасць, якая прайшла праз горкі вопыт 1905, умудроная ім, — вось хто стварыў



гэтую форму пралетарскай улады» [цыт. па: 6, с. 51]. Саветы, якія ўзніклі на хвалі Лютаўскай рэвалюцыі, з іх своеасаблівым «маяком» — Петраградскім саветам рабочых і салдацкіх дэпутатаў — мелі невялікі вопыт дзейнасці ў ходзе рэвалюцыі 1905—1907 гг. Аднак гэтага вопыту было зусім недастаткова, каб падмяніць апарат кіравання, які складаўся стагоддзямі.

Ужо ў ходзе рэвалюцыі 1905—1907 гг. лідэр бальшавікоў У. І. Ленін сфармуліраваў погляд на Саветы як на «органы ўсесаслоўнага альтэрнатыўнага палітычнага кіравання». Меншавікі ж бачылі ў Саветах толькі органы «рабочага самакіравання». У адрозненне ад іх У. І. Ленін, які настойваў на пераўтварэнні буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў сацыялістычную, лічыў, што Саветы павінны быць «кааліцыйным органам палітычнага кіравання на шляху да парламенцкай сацыялістычнай рэспублікі» [5, с. 136—137].

На працягу сакавіка 1917 г. Саветы стыхійна ўзнікалі па ўсёй краіне. Як і ў Петраградскім савеце, у іх пераважалі меншавікі і эсэры. Праз месяц пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі ўжо дзейнічала не менш за 600 розных Саветаў — рабочых, сялянскіх, салдацкіх і аб’яднаных (але пераважная іх большасць узнікала ў гарадах) [4, с. 918—919]. Стварэнне Саветаў не адбывалася аднастайна па ўсёй краіне: акрамя таго, што яны прадстаўлялі розныя сацыяльныя або прафесійныя групы, у іх былі неаднолькавыя нормы прадстаўніцтва, склад, які часта змяняўся, розная ступень валодання ўладай і г. д. Першапачаткова не было і адзінай савецкай структуры, але ўжо даволі хутка азначыліся спробы каардынацыі дзеянняў. Так, ужо 29 сакавіка ў Петраградзе адбылася першая канферэнцыя Саветаў [2, с. 40—41]. У той час Саветы разглядаліся не як органы ўлады, а як арганізацыі, якія павінны былі кантраляваць дзейнасць мясцовых органаў улады — земстваў і гарадскіх дум. Многія Саветы адразу ж выказаліся ў падтрымку Часовага ўрада, як органа дзяржаўнага кіравання, і Устаноўчага сходу, як органа заканадаўчай улады. Пазней у сувязі з кампаніяй па правядзенню выбараў ва Устаноўчы сход пачалося нават самаліквідаванне Саветаў [8, с. 137]. Многія з іх існавалі хутчэй на паперы, чым у рэчаіснасці, іншыя ж знаходзіліся ў стане арганізацыйнага і палітычнага заняпаду [1, с. 185].

Асаблівасцю перыяду з лютага да кастрычніка 1917 г. была адсутнасць Саветаў у пераважнай большасці валасцей. Гэта было звязана з палітычнай адсталасцю расійскай вёскі, яе традыцыяналізмам. У вёсцы аснову кіравання па-ранейшаму складала абшчынная дэмакратыя ў выглядзе сельскіх і валасных сходаў [7, с. 321].



3 красавіка 1917 г. у Петраград прыехаў У. І. Ленін, які карыстаўся безумоўным аўтарытэтам у сваёй партыі (РСДРП(б)). У Саветах ён убачыў прыладу барацьбы за ўладу ва ўмовах паглыблення рэвалюцыі. На ўзбраенне быў узяты тэзіс аб двоеўладдзі, якое нібы ўсталявалася пасля Лютаўскай рэвалюцыі. Палажэннем аб двоеўладдзі штучна ўзнімалася значэнне Саветаў. У рэальнасці Саветы не з’яўляліся другой самастойнай уладай, а выконвалі дапаможную функцыю ў агульнай сістэме дэмакратычных органаў улады. Але ўжо згода, заключаная 2 сакавіка 1917 г. між Часовым урадам і Петраградскім саветам, умацавала становішча Саветаў і дапамагла ім замацаваць сваё месца ў свядомасці шырокіх мас насельніцтва як органаў новай

улады. Далейшая агітацыя леварадыкальных партый узнімала ўсведамленне значэння Саветаў. Класавае разуменне існасці дзяржавы прымушала бальшавікоў супрацьпастаўляць Часовы ўрад, як уладу буржуазна-памешчыцкую, Саветам, як уладзе рабоча-сялянскай. Гэта супрацьпастаўленне настройвала не на сацыяльнае партнёрства і замацаванне асноў дэмакратыі, а на непрымірымую класавую барацьбу і ломку ранейшых інстытутаў. Палажэннем аб двоеўладдзі Саветам даваўся своеасаблівы аванс: яны правакаваліся на барацьбу за першыя ролі і адначасова нацэльваліся на далейшае змаганне. Актыўнасць Саветаў падагравалася таксама тэарытычна і гістарычна не даказаным тэзісам аб савецкіх органах улады, як «вышэйшым тыпе дэмакратычнай дзяржавы», а таксама адміранні дзяржавы праз Саветы як органы пралетарскай дыктатуры. Магчымасць урастання Саветаў у будучую стабільную сістэму дэмакратычных органаў улады леварадыкальнымі партыямі адхілялася [3, с. 160].

Становішча Саветаў па ўсёй краіне шмат у чым вызначалася пазіцыяй Петраградскага савета па дачыненні да Часовага ўрада. У сувязі з гэтым у развіцці савецкіх органаў вылучаюць тры перыяды: 1) з 27 лютага па 5 мая 1917 г. — перыяд супрацьстаяння і пошуку кампрамісных рашэнняў; 2) з 5 мая да 27 жніўня 1917 г. — перыяд існавання першага і другога кааліцыйных урадаў, якія характарызаваўся поўнай падтрымкай Петраградскім саветам прынцыпу кааліцыі з буржуазіяй; 3) з 27 жніўня па 25 кастрычніка 1917 г. — перыяд узрастання ўплыву бальшавікоў у Саветах.

Адбыўшыся 3—24 чэрвеня ў Петраградзе І Усерасійскі з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў не змяніў становішча Саветаў у дачыненні да органаў Часовага ўрада. У той жа час ён меў важнае значэнне ў справе каардынацыі дзейнасці Саветаў па ўсёй краіне. На з'ездзе прысутнічала 822 дэлегаты з вырашальным голасам і 268 з дарадчым. Па партый-



най прыналежнасці пераважную большасць складалі меншавікі і эсэры (адпаведна 248 і 285 чал.). РСДРП(б) была прадстаўлена 105 дэлегатамі. З'езд прыняў рэзалюцыю аб падтрымцы Часовага ўрада. Менавіта тады ў ходзе дыскусіі аб магчымасці якой-небудзь адной партыі без кааліцыі з іншымі прэтэндаваць на ўладу У. І. Ленін запярэчыў лідэру меншавікоў І. Г. Цэрэтэлі, што такая партыя ёсць. Па словах Л. Д. Троцкага ў эсэра-меншавіцкай большасці такая пазіцыя выклікала «трывожнае здзіўленне». На з'ездзе быў абраны ЦВК Саветаў з 200 чал. (большасць у ім заканамерна атрымалі меншавікі і эсэры) і бюро ЦВК у складзе 48 чал. Старшынёй Прэзідыума ЦВК стаў М. С. Чхэідзэ. Выбранаму на з'ездзе ЦВК павінны былі падпарадкоўвацца Саветы ўсіх узроўняў, што азначала стварэнне фармальнай дэмакратычнай вертыкалі сістэмы палітычнага кіравання рабочымі і салдатамі [7, с. 321]. Убаку пакуль заставаліся сялянскія Саветы, з імі вырашана было сумесныя органы не ствараць, але праводзіць кансультацыі.

Бальшавікі, якія бачылі ў Саветах тыя структуры, якія могуць ажыццяўляць уладу на месцах замест буржуазных органаў, створаных Часовым урадам, праводзілі вялікую працу па ўзмацненню ў іх свайго ўплыву. Але праца гэтая доўгі час не давала жаданых вынікаў. Неўзабаве пасля няўдачы бальшавікоў у ходзе ліпеньскага крызісу з 26 ліпеня па 3 жніўня 1917 г. у Петраградзе быў праведзены VI з'езд РСДРП(б), які прыняў рашэнне часова зняць лозунг «Уся ўлада Саветам!». Адначасова была звернута ўвага на неабходнасць узмацніць працу ў Радах. Акрамя таго, з'езд абвясціў курс на ўзброенае паўстанне з мэтай скінуць уладу буржуазіі і ўстанавіць уладу пралетарыяту. На з'ездзе адбылося таксама далучэнне да бальшавікоў Міжраённай арганізацыі РСДРП, якая была створана яшчэ ў 1913 г. часткай меншавікоў-інтэрнацыяналістаў. Іх лідэрам быў Л. Д. Троцкі, які знаходзіўся ў той час у турме. Тады ж Троцкі быў завочна абраны ў ЦК.

У абвешчаным бальшавікамі курсе на ўзброенае паўстанне і захоп улады яны яшчэ не маглі разлічваць на Саветы. Па ўспамінах Арджанікідзэ (аб гэтым сведчыць Троцкі) лідэр бальшавікоў У. І. Ленін збіраўся зрабіць стаўку на фабзаўкамы [9, с. 281]. Але сітуацыю рэзка змяніў карнілаўскі мяцеж, які прымусіў аб'яднаць дзеянні ўсіх сацыялістычных партый і які падняў аўтарытэт бальшавіцкай партыі. У гэты час бальшавікам удалося значна павялічыць сваё прадстаўніцтва ў сталічным, Маскоўскім і іншых Саветах. Лозунг «Уся ўлада Саветам!» быў адноўлены, набыўшы пры гэтым характар закліку да ўзброенай барацьбы за ўладу. Імкліва расце і лік сяброў РСДРП(б). Напярэдадні Кастрычніцкай рэ-



валюцыі колькасць сяброў бальшавіцкай партыі паднялася да 400 тыс., выдавалася больш за 75 бальшавіцкіх газет і журналаў. Бальшавікі атрымалі перавагу ў Петраградскім савеце, яго старшынёй быў абраны Л. Д. Троцкі.

У кастрычніку 1917 г. у Расіі налічвалася 1429 Саветаў, з іх 706 з'яўляліся Саветамі рабочых і салдацкіх дэпутатаў, 235 — Саветамі рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, 33 — Саветамі салдацкіх дэпутатаў і 455 — Саветамі сялянскіх дэпутатаў [6, с. 73]. Значным уплывам у іх карысталіся бальшавікі.

Увогуле ў характары і развіцці Саветаў можна выявіць шэраг асаблівасцей: 1) для Саветаў уласціва ярка выяўленая сацыяльная афарбоўка (рабочыя, сялянскія, салдацкія), што радыкальна адрознівала іх ад вертыкалі агульнадэмакратычных органаў улады, якую будаваў Часовы ўрад; 2) Саветы выступалі як органы непасрэднага рэвалюцыйнага дзеяння, груба ўмешваліся ва ўсе сферы кіравання, лёгка пераступаючы праз

прававыя нормы; 3) як самадзейныя грамадскія органы Саветы арыентаваліся галоўным чынам на спецыфічныя нацыянальныя, прафесійныя, сацыяльныя («месцячковыя») і іншыя надзённыя інтарэсы, якія часта прыходзілі ў супярэчнасць з агульнадзяржаўнымі інтарэсамі; 4) прымаючы на сябе шэраг паўнамоцтваў па рашэнню найбольш злабадзённых пытанняў, падмяняя дзяржаўныя органы, але не маючы падрыхтаваных кадраў тэхнічнага апарата, сродкаў, Саветы выступалі галоўным чынам як дэструктыўная сіла; 5) Саветы, якія не мелі дастатковага вопыту, традыцый, культуры, вымушаны былі фарміравацца як каляпартыйныя органы, запазычваючы ў актыўна працуючых партый іх кадры і метады працы ў масах [3, с. 159].

Шэраг чыннікаў — як выпадковых, так і заканамерных — дазволіў менавіта бальшавікам напрыканцы кастрычніка ажыццявіць захоп улады. Да ліку гэтых чыннікаў адносіліся: 1) выбух антываенных настрояў у войску пасля правалу летняга наступлення, адчужэнне салдат ад афіцэраў пасля карнілаўскага мяцяжу; 2) рост узброеных выступаў у вёсцы; 3) глыбокі раскол у асяроддзі меншавікоў і эсэраў, з’яўленне ў абедзвюх партыях моцнага левага крыла, блізкага да бальшавікоў; 4) поспех бальшавізацыі мясцовых і сталічнага Саветаў; 5) пашырэнне бальшавіцкага крыла ў сталічных гарадскіх думах; 6) узмацненне ўплыву левaрадыкальных партый у воінскіх гарнізонах у сталіцах і гарадах, размешчаных блізка да Петраграда.

Менавіта Саветы, ад імя якіх дзейнічалі бальшавікі, забяспечылі легітымацыю прыйшоўшай да ўлады бальшавіцкай партыі. Але нават у



кастрычніку 1917 г. бальшавікі павінны былі разглядаць Саветы як сваіх канкурэнтаў. Спатрэбіліся яшчэ значныя намаганні па пераўтварэнню шматпартыйных Саветаў у падкантрольныя партыі бальшавікоў органы народнай улады. Рэальнай формай народаўладдзя Саветы не сталі. У першыя гады «савецкай улады» (на самой справе, бальшавіцкай дыктатуры) шматпартыйныя Саветы былі заменены ўсялякага роду рэвкомамі, камбедамі, іншымі надзвычайнымі дзяржаўнымі органамі [8, с. 137]. Пасля поўнай бальшавізацыі Саветаў яны пераўтварыліся ў паслухмяныя партыі органы, якія з’яўляліся праваднікамі «генеральнай лініі» ВКП(б) і ў рэальнасці мелі толькі дэкаратыўны характар.

**ЛІТАРАТУРА**

1. *Башко, П. К.* Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии (март—октябрь 1917 г.) / П. К. Башко. Минск, 1987.
2. *Боффа, Д.* История Советского Союза: в 2 т. Т. 1 / Д. Боффа. М., 1994.
3. История России. XX век / А. Н. Боханов [и др.]. М., 1997.
4. *Минц, И. И.* История Великого Октября. Свержение самодержавия. Т. 1 / И. И. Минц. М., 1967.
5. *Морозов, С. А.* Культура политического управления / С. А. Морозов. Краснодар, 1999.
6. Новейшая история России. 1914—2002: учеб. пособие / под ред. М. В. Ходякова. М., 2004.
7. *Омельченко, Н. А.* История государственного управления в России: учебник / Н. А. Омельченко. М., 2005.
8. *Протько, Т. С.* Становление тоталитарной системы в Беларуси (1917—1941 гг.) / Т. С. Протько. Минск, 2002.
9. *Троцкий, Л. Д.* К истории русской революции / Л. Д. Троцкий. М., 1990.